ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 2 (1496) ГОД XXX БЕЛАСТОК 13 СТУДЗЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## ГУШЧЭВІНА

Калі ў назве вёсачкі Гарадзіскa захавалася памяць пра старажытную дрыгавіцкую крэпасць з VIII-XIII стагоддзяў Нараўку („Ніва" ад 30.XII 1984 г.), то ў найменні недалёкай ад яе, значна большай, вёскі Гушчэвіна (у двух кіламетрах на ўсход ад мястэчка Нараўка) застаўся след па болыш блізкай да нашых часоў гаспадарчай дзейнасці тут чалавека.

Мабыць, узнікненне Гушчэвіны дала бяндзюга на рацэ Нараўцы, на якую звозілі з Белавежскай пушчы дрэва, тут „качалі" яго ў раку, „вязалі" бярвенні ў „пасы" і гналі аж у Тыкоцін. Гэта пацвярджаецца запісам „На Бяндзюзе або ў Гушчары" у дакуменце з 1792 года — найстарэйшым з дагэтуль вядомых, у якіх упамінаецца гэтая мясціна. Той гушчар ці гушчэвіна, ад якіх займела назву паселішча, відаць, прасціраліся над безыменным ручаём, што цяпер стаў меліярацыйным раўчуком, які пачынаецца каля вёскі і ўпадае ў Нараўку. Назвы палеткаў, лугоў і ўрочышчаў — Асок, Бор, Багно, Вужыш Палоскі, Грушкі, Двоегоны, Загароды, Лнскоўка, Падгрушкі, Пад

(Працяг на стар. 4)



Анатоль Зубрыцкі ў сваёй майстэрні.

## У ПАДАРУНАК

І я не ўсцярогся ад ліхаманкі дасвятачных пакупак. Прыгадаўшы колішні лозунг, што „Кніжка — лепшы падарунак!", рашыў я наведаць магазін замежнай кніжкі на вуліцы Кілінскага 10. Пані магістр Іяланта Фалькоўская, якая тут за прылаўкам, прыветліва ўсміхаецца. Ад роду яна — беластачанка. Закончыла рускую філалогію на Беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта і адразу паступіла на працу ў кнігарню. Ніколі не даводзілася мне чуць ад яе нараканняў на гэтую працу. Часам, жартуючы, пытаў я ў пані Елі:

— Як пані магістр адчувае сябе за прылаўкам?

— Гэта праца поўнасцю мяне задавальняе, — гаворыць яна мне ў адказ. — Кніжка найлепш збліжае і яднае людзей. Ведаеце колькі ў мяне зараз самых блізкіх сяброў? Асабліва ў Савецкім Саюзе!

Ведаю і разумею, бо я таксама з думкай аб сваіх сябрах заглянуў у гэтую кнігарню.

— Што цікавага магу я знайсці ў вас на беларускай мове?

— Паглядзіце вось гэты альбом.

Бяру ў рукі вялікую каляровую кнігу. Загаловак альбома — *„Росквіт рэспублікі маёй"* — прадказвае таксама каштоўны змест. Ведаю, што гэтую кнігу я ўжо з рук не выпушчу.

Дома заглыбляюся ў вывучэнне альбома. Праходзіць вечар і амаль цэлая ноч. Цудоўныя, шматкаляровыя здымкі! Здаецца мне, што вандрую па сучаснай, як жа багатай Савецкай Беларусі! Брэст, Гродна, Гомель, Магілёў, Салігорск... Знатныя людзі, героі вайны і працы, мастакі і пісьменнікі...

Найперш доўга не магу заснуць, а пасля малюнкі з альбома вяртаюцца да мяне ў сне.

— Не пашкадуеце, — зноў са шчырай усмешкай заахвочвае мяне пані Еля. — Паглядзіце вось гэтую паліцу. Там у нас беларуская літаратура.

Выбар спярша паказаўся мне вельмі скромны. Паліца з беларусамоўнымі выданнямі прадстаўляецца неяк беднавата.

Найперш маю ўвагу звярнулі *„Казкі беларускіх пісьменнікаў"*. Фіялетавы зайчык з ёжыкам і жабай забаўляецца на вокладцы. *„... Гэй, гоп, тайкачыкі, гэй, гоп асінавы, ды работы Максімавы..."* І не толькі адны „таўкачыкі" з'яўляюцца Максімавай работы, але і цэлую казку пра *„Мушку-зелянушку і камарыка — насатага тварыка"* „зрабіў" **Максім Багдановіч.**

Наступная кніжка, якая трап-

(Працяг на стар. 6)

## АДДЗЕЛ БГКТ У ДУБРОВЕ

Згодна з пастановамі X з'езда БГКТ, 16 снежня 1984 г. у Дуброве адбылася канферэнцыя, на якой было выбрана праўленне аддзела БГКТ. На яе прыбылі намеснік кіраўніка Раённага цэнтра партыйнай працы (РОПу) Эдвард Стжалкоўскі, намеснік начальніка Гмінна-гарадскога ўпраўлення Іван Жданук і старшыня гміннай рады ПРОН — Бернард Гелажын.

Канферэнцыю адкрыў намеснік старшыні Галоўнага праўлення Янка Зенюк, які ў сваім кароткім выступленні паведаміў аб тым, што гэта першая ў БГКТ такая канферэнцыя і што выбраныя праўленні аддзелаў палепшаць дзейнасць БГКТ і ўзмоцняць сувязі з ГП БГКТ. Адзначыў таксама, што ў 1962 годзе ў Дуброве было створана павятовае праўленне, якое пасля было пераведзена ў Ячна, аднак і там не праяўляла яно патрэбнага дзеяння, а пазней у сувязі з ліквідацыяй павятаў павятовае праўленне аддзела БГКТ было распушчана.

Янка Зенюк запрапанаваў на старшыню канферэнцыі вядомага мясцовага дзеяча БГКТ Аркадзя Сулiму, кандыдатуру якога прысутныя аднагалосна прынялі. Ён жа прадставіў парадак дня, прэзідыум канферэнцыі і папрасіў члена Прэзідыума ГП Міхася Хмялеўскага выступіць з дакладам аб заданнях аддзела і гурткоў.

Дакладчык звярнуў увагу на неабходнасць культывавання нацыянальнай свядомасці, на значэнне і пашану да роднай беларускай мовы, песні, традыцый і звычаяў, а таксама на супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. „Добрай з'явай з'яўляецца той факт, — падкрэсліў дакладчык, — што ў Дуброве і вёсках Дуброўшчыны не толькі не гасне пачуццё прыналежнасці да беларускай нацыянальнасці і патрэба існавання нашай беларускай грамадска-культурнай арганізацыі, але ў апошніх гадах гэтае пачуццё нацыянальнай спецыфікі прыцягвае да дзеяння, да гуртавання і яднання беларусаў, выклікае зацікаўленне гісторыяй і культурай беларускага народа".

Пасля выбару камісіі пастаноў і выбарчай камісіі распачалася дыскусія. Прадстаўнікі паасобных гурткоў, якіх пакуль што налічваецца 10 з 170-цю членамі, гаварылі аб неабходнасці разбудоўваць арганізацыю, аб недахопе спецыялістаў, якія маглі б дапамагаць стварэнню харавых калектываў і іх працы (а спяваць на Дуброўшчыне вельмі любяць), аб падпісцы на „Ніву" і аб патрэбе навучання ў школах беларускай мовы.

— На першым месцы нашых заданняў павінна быць увядзенне беларускай мовы ў некаторых школах, на другім месцы — павелічэнне падпісчыкаў „Нівы". Неабходна нам, — гаварыў Мікалай Самойлік, — заняцца песняй, каб яна так, як калісьці, упрыгожвала нашы вёскі і вечарамі чувацъ была далёка. Трэба нам таксама стварыць цэнтр беларускай культуры ў Ячне ці ў Грабенях.

Яраслаў Гічан паінфармаваў, што падпіска „Нівы" на квартал каштуе ўсяго 104 зл, а на год — 416 злотых. (— Гэта куды

(Працяг на стар. 4)

НА МЯЖЫ

# АБ ЦАНЕ ПАПУЛЯРНАСЦІ

### ЧАСТКА VII

Калісьці ў БССР я прымаў удзел у аўтарскай сустрэчы. Удзельнічалі ў ёй таксама вядомы пісьменнік, якога можам назваць народным, і ў істоце нікому невядомы пісарчук, які апублікаваў некалькі мізэрных твораў.

Калі мы прапіхаліся праз натоўп да сцэны, я заўважыў вельмі розныя паводзіны „народнага" і „пісарчука". Першы ішоў горда, з высока паднятай галавой, не звяртаючы найменшай увагі на акружаючых яго людзей. Затое „пісарчук" пакуль дайшоў да сцэны — а было да яе ад дзвярэй метраў семвосем — па дарозе пагладзіў па галоўках некалькі дзетак, прывітаўся за руку з некалькімі дзядзькамі і барадатымі дзядамі. Учыніў вялікае радаснае замяшанне сярод дзяўчат і жанчын: адну абняў, другую ўшчыпнуў, трэцюю абхваціў рукамі і падкінуў угору, чацвертую пацалаваў у шчочку, пятай сказаў прыемнае слова. І дзякуючы гэтаму, ужо ідучы да сцэны, выклікаў да сябе вялікую сімпатыю. Разам з яго крокамі да сцэны каціўся адабральны і прыязны гоман, у якім можна было адрозніць сказы: „Вось маладзец!", „Во гэта чалавек!", „Такіх бы прысылалі заўсёды!"

Калі пісьменнікі сядзелі на сцэне ў прэзідыуме, „народны" прадаўжаў сваю гібельную праграму: сядзеў надуты і горды, звысока глядзеў на натоўп, да якога, здавалася, не мае ніякай справы. Адчувалася, што ён думкамі недзе вельмі далёка і што апынуўся сярод гэтых людзей быццам выпадкова або не па сваёй волі. Затое „пісарчук" развіваў дасканала сваю праграму яднання з народам, усё болей заваёўваючы яго сэрцы і пачуцці. „Пісарчук" аднаму ўсміхнуўся, другому махнуў рукой, трэцяй — падміргнуў.

Зразумела, што першым падняўся „народны". Я ўважна прыслухоўваўся да яго слоў. Было ў іх многа арыгінальнага, цікавага і ўласнага. Адчувалася, што гэтыя словы — вынік многагадовых роздумаў аб жыцці і людзях. Аднак натоўп не слухаў „народнага". Ён прайграў сваю баталію пры ўваходзе і цяпер нельга было адбіць страчаную пазіцыю. Людзі нібы і слухалі „народнага", але глядзелі на „пісарчука" і было відаць, што цярпліва чакаюць яго выступлення.

Калі „народны" скончыў, тамсям нехта хлопнуў у далоні і на гэтым скончылася. Хоць вядучы сустрэчу моцна заахвочваў сабраных, каб задавалі „народнаму" пытанні, пытанняў такіх не аказалася.

Урэшце выступіў „пісарчук". Гаварыў ён банальныя рэчы. Не было ў іх ні арыгінальнасці, ні літаратурнай вартасці. „Пісарчук" расказаў некалькі банальных анекдоцікаў, выкліка-

(Працяг на стар. 5)

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

(„Літаратура і мастацтва")

# „НЕ ЗАГАСНУЦЬ ЗОРКІ Ў НЕБЕ..."

### ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІКАЛАЯ ЯНЧУКА

...Прафесар гаварыў студэнтам нядаўна адкрытага Беларускага дзяржаўнага універсітэта аб таленавітым народзе, які стварыў неацэненыя духоўныя і матэрыяльныя скарбы, даў сусветна вядомых дзеячаў навукі, культуры, літаратуры. Як зачараваныя слухалі яго першыя студэнты універсітэта. І ніхто з іх не ведаў, што слухае прафесара Мікалая Андрэевіча Янчука апошні раз.

Прачытаўшы лекцыі, М. Янчук сеў у цягнік, які ішоў у Маскву. Там ён жыў, лекцыі чытаць ездзіў у Мінск з Масквы. Праз некалькі дзён Мікалай Андрэевіч адчуў сябе блага — тыф зваліў яго, перасіліць жа хваробу ён не змог. 6 снежня 1921 г. М. Янчука не стала.

Смерць выдатнага вучонага — філолага, этнографа, фалькларыста, музыказнаўца — была цяжкай стратай для айчыннай навукі. Шмат зрабіў ён у галіне славяназнаўства, у тым ліку і беларусазнаўства.

Нарадзіўся Мікалай Андрэевіч Янчук 29 лістапада 1859 г. у сяле Карніцы Канстанцінаўскага павета Сядлецкай губерні (зараз тэрыторыя ПНР) у сялянскай сям'і. Пасля паспяховага заканчэння сельскага вучылішча бацька захацеў прадоўжыць яго адукацыю. Да паступлення ў гімназію Мікалая падрыхтаваў сельскі настаўнік Антон Мазаноўскі, гуманны высокаадукаваны чалавек (быў звольнены з Холмскай духоўнай семінарыі за ўдзел у паўстанні 1863 г.). Восенню 1871 года Мікалай Янчук пачаў вучыцца ў Бельскай гімназіі. Цяжкое становішча сям'і балюча адбівалася на самаадчуванні хлопчыка: бацька трапіў у турму за спробу абараніць непрымальную для царызму і праваслаўя дзядоўскую (уніяцкую) веру, старэйшы брат памёр, сам жа ён доўгі час пакутаваў ад таго, што па патрабаванні бацькоў павінен быў прытрымлівацца уніяцтва, астатнія ж вучні гімназіі былі праваслаўныя і здзекаваліся з яго.

У фарміраванні поглядаў і адукацыі Мікалая Янчука вялікую ролю адыграла сям'я Я. Гарднера — камісара па сялянскіх справах у г. Бельску. Жонка яго, жанчына інтэлігентная і вельмі чулая да людзей, была стрыечнай сястрой Д. Пісарава. Яна прыахвоціла да заняткаў мовамі і музыкай Мікалая. Пазней ён з удзячнасцю ўспамінаў пра гэтыя заняткі музыкай, што паслужылі яму як фалькларысту. Праз колькі год М. Янчук разам з сям'ёй Гарднераў пераехаў у Маскву, дзе паспяхова скончыў 5-ю гімназію і паступіў у Маскоўскі універсітэт. З трэцяга курса пачаў займацца на славяна-рускім аддзяленні старажытнарускай літаратурай і народнай славеснасцю ў вядомага вучонага прафесара М. Ціханравава, на кафедры якога ён і застаўся пасля заканчэння універсітэта для падрыхтоўкі да экзамена на ступень магістра рускай літаратуры. Адначасова захапляўся ён этнаграфіяй і фальклорам.

Вуснапаэтычныя творы Янчук пачаў запісваць, калі яшчэ вучыўся ў гімназіі. Больш кваліфікавана пачаў ён запісваць абрады і фальклорныя творы пасля заканчэння універсітэта. У 1885 г. з'явілася апісанне поўнага вясельнага абраду жыхароў Карніцкага прыходу, у якім Янчук дае таксама характарыстыку мясцовай гаворкі і прыводзіць нотныя запісы. У 1887 г. работа была надрукавана ў „Трудах Отдела этнографии", атрымала станоўчую ацэнку, і ён стаў членам Этнаграфічнага аддзела Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце. Праз пэўны час яго прызначылі сакратаром аддзела. Горача цікавіўся Мікалай Андрэевіч і антрапалогіяй, а калі ў 1886 г. ездзіў у камандзіроўку на Літву і Беларусь, зрабіў і антрапалагічныя даследаванні, вымярэнні.

Разам з этнографам М. Харузіным Янчук склаў „Праграму для збірання этнаграфічных звестак", у якой упершыню збіранне этнаграфічна-фальклорных матэрыялаў было пастаўлена на належную навуковую вышыню. Па прапанове М. Янчука і М. Харузіна пачаў выдавацца часопіс „Этнографическое обозрение", якому Янчук аддаў 12 гадоў бескарыслівай працы. У часопісе былі апублікаваны матэрыялы па этнаграфіі і фальклоры Е. Раманава, Я. Ляцкага, М. Доўнар-Запольскага, М. Нікіфароўскага, У. Дабравольскага, П. Шэйна і многіх іншых.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі М. Янчук стаў прафесарам Маскоўскага універсітэта. У 1918 г. ён пачаў чытаць курс гісторыі беларускай літаратуры ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве, выкладаў таксама гісторыю ўкраінскай літаратуры, а ў 1921-1922 г.г. павінен быў чытаць курс этнаграфіі. Актыўны ўдзел прымаў М. Янчук у стварэнні Беларускага дзяржаўнага універсітэта, працаваў у спецыяльнай камісіі па яго арганізацыі і быў зацверджаны прафесарам кафедры беларускай літаратуры і этнаграфіі.

Адной з першых буйных прац М. Янчука была „Па Мінскай губерні (нататкі з паездкі ў 1886 годзе)". Вучоны не абмяжоўваецца тут толькі публікацыяй матэрыялаў, сабраных пры археалагічных раскопках і антрапаметрычных вымярэннях, запісамі абрадаў і народна-паэтычных твораў. Ён абвяргае многіх папярэдніх даследчыкаў, якія выказвалі няправільныя думкі аб беларусах, іх жыцці, побыце, творчасці, характары. Янчук адзначае асаблівасці адзення беларусаў, іх жылля, сядзібы, вераванняў, мовы і інш.

Найбольшае месца ў працы займаюць песні, запісаныя самім Янчуком у 1886-1887 г.г. або дасланыя яму. Каштоўнасць збору павялічваюць нотныя прыклады, якіх нямала змясціў вучоны ў дадатку. Сярод 158 песень, якія змясціў збіральнік, ёсць вясельныя, радзільныя, хрэсьбінныя, калядныя і валачобныя, масленічныя, веснавыя, купальскія, жніўныя, летнія, гістарычныя, пазаабрадавыя лірычныя песні, балады. Многія песні ў заўвагах параўноўваюцца з варыянтамі песень, апублікаванымі П. Шэйнам, П. Бяссонавым, Е. Раманавым, Я. Чачотам і інш.

У кнізе „Курс беларусазнаўства. Лекцыі, чытаныя ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве летам 1918 года" Янчук змясціў „Этнаграфічны нарыс Беларусі", у якім ён спрабуе вызначыць паходжанне беларусаў, паказаць іх рассяленне і колькасць, псіхалогію. У нарысе даследуецца духоўная і матэрыяльная культура беларускага народа.

Янчук абвяргае сцвярджэнне, што беларускі народ не пявучы. Такая думка складаецца ў выніку павярхоўнага знаёмства з беларускімі песнямі. Даследчык узрушана характарызуе беларускія народныя песні, адзначае іх багаты змест. Ён падкрэслівае, што спевы беларускіх жанчын дасягаюць нярэдка высокага лірызму і глыбокай задушэўнасці, напрыклад, у некаторых вясельных, любоўных і сямейных песнях, у веснянках, купальскіх „спевы набываюць характар радаснага гімна, поўнага сілы і настрою. Хто раз чуў урачыстую песню вясне, выкананую хорам беларускіх дзяўчат ва ўнісон, на поўную сілу, з бясконцымі ферматамі ў канцы, якія губляюцца ў бязмежнасці, той ніколі яе не забудзе", — зазначыў М. Янчук. Ён падкрэсліваў вялікі ўплыў беларускай песеннай творчасці на пісьменнікаў і кампазітараў: „Гэта беларуская песня сваёй мелодыяй у значнай ступені ўспаіла музу Манюшкі, а сваім славесным зместам беларуская паэзія насыціла душу сваіх блізкіх землякоў Міцкевіча, Сыракомлі і іх паслядоўнікаў у польскай літаратуры".

Курс па гісторыі беларускай літаратуры, прачытаны Янчуком у Беларускім народным універсітэце ў 1918 г., быў надрукаваны ў 1922 г. асобнай кніжкай „Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Старадаўні перыяд". Вучоны раскрывае гістарычныя ўмовы ўзнікнення і развіцця беларускай пісьменнасці, характарызуе літаратурную дзейнасць Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, разглядае юрыдычныя помнікі, Літоўскі статут, прамову Мялешкі, беларускія летапісы, аналізуе свецкія аповесці.

Дзве працы М. Янчука былі прысвечаны найноўшай беларускай літаратуры. У „Нарысах беларускай літаратуры" ён змясціў раздзел „Найноўшая беларуская літаратура і яе дзеячы". У гэтым раздзеле коратка характарызуецца развіццё беларускай літаратуры ў пачатку XX ст., аналізуецца творчасць Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і іншых пісьменнікаў, паказваецца роля віленскага і пецярбургскага беларускіх літаратурных гурткоў.

Важна адзначыць, што і сам М. Янчук пісаў вершы і апавяданні на беларускай мове пад псеўданімам Мікола Грымот. Захаваўся рукапісны зборнік яго вершаў (1916 г.). Спрабаваў ён сілы і ў драматургіі, і музыцы. Напісаў некалькі п'ес на ўкраінскай мове, якія ставіліся

(Працяг на стар. 5)

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Апошнім акордам радзільна-хрысцінных абрадаў з'яўляецца хрысцінная бяседа. Апрача галоўных персанажаў гэтай урачыстасці: бабкі, кумы і кума і бацькоў дзіцяці, бралі ў ёй удзел выключна сямейныя асобы. Хрысцінная бяседа праводзілася ў свабоднай атмасферы. Звярнуў на гэта ўвагу выдатны збіральнік беларускага фальклору П. Шэйн:

„Пискливыми безобразными голосами жонки поют песни, им подтягивают мужчины и начинаются самые неприличные шутки не только словом, но и делом — в чем же может быть стеснение, так как на „хресьбины“ собираются только женатые; холостые мужчины и девушки на „хресьбины“ не допускались“.

Гэтая, здавалася б, крайняя і тэндэнцыйная характарыстыка хрысціннай бяседы знаходзіць пацвярджэнне ў многіх старэйшых жыхароў усходняй Беласточчыны. Варта тут спаслацца на выказванне жыхара вёскі Скрабляні Сцяпана Лісаўца.

„Пра хрысціны пытаеш, брацішку, то скажу табе пра хрысціны. Бывало, панятно, па-рознаму. Часамі зыдуцца, выпʼюць, паспяваюць і разыдуцца па хатах, а бывало і наоборот. От, так хоць бы ждала сям'я многа лет сына, а тут усё дочкі і дочкі, аж урэшце ўзяў і нарадзіўся сын. Або і наоборот: мае сем сыноў, хоча дачкі і ўрэшце нарадзілася дачка. Але не думай, што возьме табе і так адразу народзіцца тое, што хочаш. Трэба было і да шаптух і да знахараў папахадзіць і розных спосабаў наўжываць, а баба то і папамаліцца і паплакаць перад якоюсь там чудатворнаю іконаю, каб урэшце нарадзілася тое, што хацелі. Ну, калі ўжо ўрэшце тое сталася, то пчаслівыя бацькі не шкадавалі грошай на водачку, давалі ўдоволь. Ну так што? Пазбіраюцца, а вядомо, што ішлі тады на хрысціны толькі сямейныя і кажды мужчына абавязкова бутэлечку, а то і дзве нёс, як дадуць па пляшках, як урэжуць у бубен або ў гармонік, як грымнуць песню. З пачатку дружно, а потым сталамі, а пазней кожны сабе. Хто ў танцы прэ, хто пад стол спаўзе, а хто, пабачыўшы, што ўласная баба п'яна напавал, схваціць чужую і валачэ або ў адрынку, або ў сено, або ў корчыкі, або ў сенцах прымасціцца і дзяжыць. І што ты, брацішку, думаеш, ружанцы там адмаўляюць? Барані Божа, да грэху кожны лезе. А бывало і так, што варочаешся з такога дзела, як бы і не лысы, глядзіш, а мужык тае бабы, каторую ты толькі што абрабіў, тваю ўласную родную жонку паганіць! Ну, то як ты будзеш захоўвацца? Бярэш якога прача і па лобе гіцля. Але на хрысцінах моцна пабіцца не давалі, зараз набягалі, развалакалі, па міровую прыказвалі выпіць і зноў за стол і зноў за водку. Пілі моцна і весяліліся моцна, але аб дзеле не забывалі. Калі быў „городзей“, то городзілі, калі была „каша“, то елі, калі трэба было правезці кумоў на баране, то правезлі, так, што толькі пыл або снег узнімаўся стаўбом. Бо бачыш, браток, абычай — дзела святое і трэба было яго поўнасцю спаўняць, каб, значыцца, дзіця так расло і гадавалася так як трэба і на радасць людзям і на радасць Богу. А сягоння, брацішку, якія там хрысціны, гэта вяліке гаўно, а не хрысціны!“

Трэба прызнаць, што ў прыведзенай характарыстыцы не бракуе паўнакроўнай характарыстыкі, якая і з'яўляецца істотай фальклору.

**А. Баршчэўскі**



Фота Віктара Волкава.

# КАЛЯНДАР

Дваістасць у працэсе жыцця і акружаючай прыродзе былі чалавеку вядомымі з давен-даўна, а ўжо напэўна з тых пор, калі пачаў кіраваць ім не просты інстынкт, а розум. Факт прыходу чалавека на свет і яго зыходу, склаў паняцце пачатку і канца яго зямнога быту. Гэтыя ж самыя законы назіраў ён і ў акружаючым яго свеце. Змены дня і ночы, гадавое паданне і ўзніманне сонца, абуджэнне і заміранне прыроды — гэта тыя прызнакі-законы, якія мелі непасрэдны ўплыў на працэс яго жыцця. Яны сфармавалі заканамернасць учынкаў чалавека і парадак выконвання паасобных дзеянняў. Таму кожную наступаючую рэгулярную змену ў прыродзе папярэджвалі рытуальныя абрады, якія мелі запэўніць чалавеку не спрыяльнасць. А змены гэтыя былі ў асноўным звязаны з сонцастаяннем. Калі сонца ўзнімалася, чалавек ведаў з назірання, што наступіць ажыванне прыроды і што трэба выконваць такія, а не іншыя дзеянні, звязаныя ў асноўным з выхадам у поле. Паданне сонца азначала заміранне жыцця ў прыродзе і прарочыла надыход зімы. Гэта і склала гаспадарчы каляндар і звычаі, звязаныя з яго паасобнымі момантамі. Паняцце сённяшняга Новага года і лікавых дат для арыентацыі ў працэсе часу — з'ява пазнейшая. І яшчэ доўга чалавек не лікамі дзён у месяцы кіраваўся ў сваёй палявой працы, а святамі, якія паказвалі і бралі свой пачатак з заканамернасці цыклічных змен у прыродзе.

Каляндар — назва якая бярэ свой пачатак ад лацінскага слова calendae, што абазначае інакш — першы дзень месяца. А гэта бярэцца ад таго, што ў старажытным Рыме даўжнік у кожны першы дзень кожнага месяца плаціў свае даўгі. Перыядычныя з'явы ў прыродзе — вярчэнне Зямлі вакол Сонца і ўласнай восі, вярчэнне Месяца вакол Зямлі — далі пачатак спробам стварэння сістэмы часазлічэння. Імкненне пагадніць з сабою гэтыя тры з'явы назірання часазмену прывялі ў розных народаў да стварэння трох відаў календароў — месячнага, месячна-сонечнага і сонечнага.

Прыкладам месячнага календара з'яўляецца каляндар мусульманскі, дзе працягласць месяца звязваецца з квадравымі зменамі Месяца. Быў ён прыняты некаторымі народамі Азіі і Афрыкі. Год, які паводле яго складаўся з 354 дзён, дзяліўся на 12 месяцаў з пераменнай працягласцю па 29-30 сутак.

Асновай календара сонечна-месячнага, які выкарыстоўвалі ў старажытнай Вавілоніі, Кітаі і Грэцыі, было ўзгадненне квадраў Месяца з гадавымі рухамі Сонца. Адным з такіх сонечных календароў быў каляндар старажытна-егіпецкі, якім паслугоўваліся ў 4 ст. да нашай эры. Год у ім налічваў 12 месяцаў кожны па 30 дзён. У канцы года дадавалі пяць дзён дадатковых.

Сонечны каляндар паслужыў сучаснаму часазлічэнню Разв-

(Працяг на стар. 6)

## Гутарка дзядзькі Максіма

# КАБ БЫЎ МАЛОДШЫМ

Ідэя мяне мучыла ад учарашняга дня. А ідэя гэта вялікая, амаль дзяржаўнага значэння, а можа і шырэйшага яшчэ, бо не толькі ў адной Польшчы такая бяда з жыллёвым ды інвентарскім буданіцтвам. Колькі трэба чалавеку нахадзіцца, наездзіцца, накланяцца, каб урэшце купіць якую тысячу штук цэглаў або гэтага сіпарэксу. За адну цагліну трэба заплаціць сама меней 15 злотых, не лічачы перавозу, на які яшчэ столькі ж спатрэбіцца, бо ўсе таксісты і трактарысты цану сабе ведаюць. А тут на адну печку з комінам спатрэбіцца да паўтары тысячы цэглаў, не лічачы ўсіх іншых дадаткаў. Аднаго парадачнага вепрука даводзіцца прызначыць на матэрыялы, а другога майстру аддаць, бо і гэты народ дзярэ шкуру. Калі яго парадачна не накорміш, не напоіш і яшчэ тры тысячы ў дзень зарабіць не дазволіш, дык і гаварыць з табою не захоча, такі ганарысты народ.

Можна падумаць, што не ўсе клепкі ў мяне на месцы, але ўсё па прычыне гэтай ідэі, якой я заразіўся ў час пабыўкі ў майго зяця ў Беластоку. Палашка паслала мяне, вядома, з іх доляй усяго мяснога, каб Каляды было чым спраўляць. А калі ёсць закуска, дык знойдзецца і пад закуску. Мая дачушка стала ўжо спецыялісткай па перапрацоўцы звычайнага белага цукру ў штосьці шмат мацнейшае, хаця і гадкае, але не горшае ад таго напітку, якім частуюцца ўсе інтэлігенты і без якога лепш да лекараў не падыходзіць.

Апынуўся я ў кампаніі адных магістраў, інжынераў, дактароў і дацэнтаў. Проста хаця ты пад стол хавайся. А найгорш было, калі прыйшлося мне закусваць. Ад хвалявання забыўся, што рабіць з шынкай, хлебам, нажом, вілкамі і ўласнымі пальцамі. У якой чарзе ўсім гэтым карыстацца. Бачыў я, што дачка мая таксама за мяне хвалюецца, бо

(Працяг на стар. 7)

## АДЫШОЎ АД НАС

# МІКАЛАЙ СЕДУНЬ

6 лістапада 1984 г. памёр ва ўзросце 64 гадоў Мікалай Седунь — грамадскі дзеяч, актывіст БГКТ, надта заслужаны для сваёй мясцовасці.

М. Седунь нарадзіўся 26 красавіка 1920 г. у вёсцы Самадараўка, што ля Бузулука. Яго бацькі, Максім і Аляксандра, былі сялянамі. Пасля вяртання сям'і з бежанцаў, у 1921 г. памірае бацька Мікалая. Выхоўваннем 4 малых дзяцей займаецца маці, якая таксама абрабляе 4,5-гектаровую гаспадарку. Пачатковую школу Мікалай закончыў у 1934 г. Працуе разам з маці на гаспадарцы і крыху ў лесе. У 1939 г., калі Белавежская пушча апынулася ў межах БССР, Седуня прымаюць у камянюцкі леспрамгас і даручаюць яму пасаду бракаўшчыка. Да 1941 г. жыве ён з сям'ёй у сяле Яленскі Бор (гміна Белавежа). Пасля нападу гітлераўскіх войск на Савецкі Саюз сям'я Седуня апынулася ў сяле Булкава, што ля Кобрына. Брата Мікалая, Яна (ён пры савецкай уладзе быў дэпутатам), немцы расстрэльваюць, а яго самога вывозяць на прымусовую працу ў Германію. Там ён і дачакаўся 24 лютага 1945 г. вызвалення. Прыязджае ў Белавежу і затрымоўваецца ў сваёй сястры. Пачынае працаваць у лесе звычайным рабочым, адначасова ходзіць на курс для ляснічых, які заканчвае ў 1946 г. Міністэрства лясніцтва накіроўвае яго на працу ў Ольштынскае ваяводства, у надлясніцтва Кулік. Працуе тут Мікалай два гады ляснічым. Тут таксама жэніцца. Неўзабаве вяртаецца ў свой родны кут. Ад верасня 1948 г. пачынае працаваць камісарам у надл. Нараўка. У 1949 г. прымае пасаду ляснічага ў надл. Лясная. У 1951 г. пераводзяць яго на работу ў Раён дзяржаўных лясоў у Белавежы, дзе ён спачатку працуе рэферэнтам у аддзеле кадраў, потым інспектарам у тэхнічным аддзеле аж да ліквідацыі ўстановы ў 1958 г. У тым самым годзе атрымаў пасаду ляснічага ў надл. Звярынец. У 1961 г. выбіраюць яго старшынёй Прэзідыума Грамадскай рады нарадовай у Белавежы, у сувязі з чым Седуня адпускаюць з працы ў лясніцтве. У 1969 г. Седунь з увагі на пашкоджанае здароўе, адмаўляецца старшынстваваць радзе і вяртаецца на працу ў лясніцтва. Трапляе ў надл. Белавежа і тут працуе інструктарам аж да 1981 г., калі пераходзіць на ранейшую пенсію.

М. Седунь належаў да ПАРП і многіх грамадскіх органаў і арганізацый, у якіх нярэдка выконваў адказныя абавязкі. У ПАРП, у якую ўступіў у 1951 г., у г.г. 1952-57 быў членам пленума Павятовага камітэта ў



Гайнаўцы, у г.г. 1951-56 — намеснікам сакратара, а ў г.г. 1960-70 — членам Гміннага камітэта ў Белавежы, у г.г. 1970-74 — I і II сакратаром ПОП пры надлясніцтве Белавежа. У апошні час выконваў абавязкі старшыні Гміннай камісіі партыйнага кантролю ў Белавежы. У г.г. 1955-82 быў грамадскім, потым гмінным радным. У г.г. 1961-69 быў старшынёю Прэзідыума Грамадскай рады нарадовай. Ад 1961 г. быў членам мясцовай гміннай спулдзельні, у якой ад 1963 г. выконваў абавязкі члена наглядальнага савета, у г.г. 1965-70 — старшыні рэвізійнай камісіі савета, а ад 1971 г. аж да смерці — старшыні наглядальнага савета. У г.г. 1966-78 быў членам наглядальнага савета ВЗСР у Беластоку. Часта выбіраўся дэлегатам на спулдзельчыя з'езды ПЗГС у Гайнаўцы і ВЗСР у Беластоку. Ад 1956 г. быў членам БГКТ.

Найбольшых дасягненняў на грамадскай ніве М. Седунь дабіўся ў час выконвання абавязкаў старшыні Прэзідыума Грамадскай рады нарадовай. Супольна з тагачасным прэзасам ПЗГС у Гайнаўцы тав. Майсенем, ён актывізаваў мясцовае грамадства на будову спажывецкіх крамаў, ды не толькі ў Белавежы, але і ў іншых мясцовасцях гміны, ствараючы добрую гандлёвую сетку. Пабудаваў таксама гэесаўскія склады. Вельмі ангажыраваўся ў стварэнне Беларускага рэгіянальнага музея ў Белавежы. Па яго ініцыятыве пабудавана дарога на Пагарэльцы (некаторыя нават называюць яе „Дарогай Седуня"). Супольна з жыхарамі гміны ўдзельнічаў у будове дарогі ў Кляшчэлі. Давёў да таго, каб быў пралoжаны асфальт на шашы з Гайнаўкі ў Белавежу. а таксама на вуліцах В. Габец, Каляёвай і Вашкевіча. Яму абавязаны жыхары за ўвядзенне асвятлення вуліцаў, будову дзетсада і пажарнага дэпо. Вялікія заслугі Седуня ва ўвекавечанні месцаў масавых расстрэлаў з часоў апошняй вайны, асабліва на Броўскай дарозе. Займаўся ён таксама ўважліва зямельнымі справамі ў гміне.

Быў бескампрамісным у барацьбе з праявамі людской несумленнасці, несправядлівасці. Адзначаўся вялікай актыўнасцю, настойлівасцю. Калі прызнаў, што нешта неабходнае для грамадства гміны, не было сумнення, што справу давядзе да канца. Быў чалавекам інтэлігентным, памяркоўным у адносінах да людзей. Часта памагаў ім разабрацца ў іх жыццёвых клопатах. Дасканала арыентаваўся ў розных правілах, законах і распараджэннях.

За сваю дзейнасць атрымаў каля 50 ганаровых грамат і 17 розных ордэнаў і медаляў. Сярод важнейшых варта назваць Крыж Кавалерскі Ордэна Адраджэння Польшчы, Сярэбраны і Залаты Крыж Заслугі, Медаль 10-годдзя Народнай Польшчы, сярэбраны значок „Заслужаны

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

ючы агульны энтузіязм, смех і захапленне. Калі скончыў, раздаліся гучныя доўгатрывалыя апладысменты. Пасля сабраныя закідалі „пісарчука" пытаннямі: многія з іх адносіліся да цывільнага стану „пісарчука". З характару пытанняў было відаць, што многія прысутныя жанчыны ахвотна звязалі б з „пісарчуком" свой лёс.

Пакідалі мы залу з вельмі рознымі тварамі. „Народны" меў вельмі кіслую міну. Затое „пісарчук" свяціўся, нібы сонца.

Я да сёння часта вяртаюся думкамі да гэтага здарэння, бо яно якраз і з'яўляецца каштоўным укладам да апрацоўкі тэмы „Аб цане папулярнасці". Аднак што не гавары, але папулярнасці, здабытай „пісарчуком", хаця можа для яго і вельмі дарагой, не назавеш у ніякім выпадку папулярнасцю каштоўнай.

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 2)

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

ў тэатрах Масквы, Мінска. П'есу „Блуднікі" Янчук напісаў пабеларуску, але цэнзура не дазволіла яе ставіць, таму што, на думку цэнзара, аўтар „нацкоўвае адно саслоўе на другое", а таксама таму, што яна „напісана беларускай гаворкай, разлічана на гледачоў-сялян".

М. Янчук пераклаў на рускую мову некалькі твораў Янкі Купалы, а да верша „Не загаснуць зоркі ў небе" напісаў і музыку.

У час, калі адзначаецца 125-годдзе з дня нараджэння Мікалая Андрэевіча Янчука, выдатнага вучонага ў галіне славянскай культуры, удзячныя нашчадкі яго каштоўнай навуковай спадчыны ўшаноўваюць памяць яго, належным чынам ацэньваюць той велізарны ўклад, які ён унёс у развіццё айчыннай навукі і культуры.

**Г. Пятроўская,**
старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

вышэйшую адукацыю, выконваюць адказныя абавязкі: а. С. Раманчук — епіскап Лодзінска-Познанскай праваслаўнай епархіі; В. Бароўскі, А. Леўша, Ф. Скепка — інжынеры; І. Зубрыцкі, М. Сачко — эканамісты; Г. Сачко, Н. Сачко — настаўніцы, К. Кабаць, Ю. Раманчук, А. Сачко, Б. Сачко — афіцэры і падафіцэры міліцыі, Я. Раманчук — аграном, Я. Скепка — лекар, І. Зубрыцкі — падафіцэр Войска Польскага і інш.

Многа моладзі вучыцца. Аднак не ўсе яны маюць намер развітвацца з родным сялом. Найлепшы прыклад для іх — Анатоль Зубрыцкі. Гэтага сімпатычнага, цяпер ужо 33-гадовага чалавека, спачатку захапіў шырокі свет і пасля гайнаўскага агульнаадукацыйнага ліцэя ён закончыў энергетычную студыю ў Радаме. Хоць і праца была цікавая і заробкі неблагія, ён усё ж вярнуўся ў родную хату, пераняў ад старэнькіх бацькоў 14-гектаровую гаспадарку. Сёння Анатоль і яго жонка Тамара належаць да лепшых гаспадароў у вёсцы і гміне, і то не толькі таму, што збіраюць добрыя плёны і даюць немалую гадоўлю (за 1983 г. прадалі дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі на амаль 400 тысяч зл.). Кожную вольную хвіліну ад занятказ на гаспадарцы, Зубрыцкія скарыстоўваюць для вытворчасці розных вырабаў з драўніны для Цэпэліі. Раней выраблялі розныя капанькі, чарпакі, падносы, цяпер жа займаюцца вырабам розных па форме днушак (стальнічак). Іхнія вырабы з пушчанскага дубу, ясеню, бярозы і іншых дрэў маюць аграмадны попыт і ў краіне і за мяжой. Цяпер Зубрыцкія нарыхтоўваюць за год каля 10 тысяч днушак і ў асноўным усё гэта ідзе ў Бельгію, Нарвегію, Федэратыўную Рэспубліку Германіі, Чэхаславакію і іншыя краіны. Арыгінальныя ў форме, з умела выяўленым натуральным узорам драўніны ды дбайна адшліфаваныя, яны маюць безліч пакупнікоў і збываць іх можна было б у дзесяць разоў болей. У сваёй даволі добра абсталяванай машынамі майстэрні. Зубрыцкія маглі б іх вырабляць многа. Але на перашкодзе ім стаяць некаторыя працаўнікі лясной адміністрацыі ў Белавежскай пушчы. Яны вельмі неахвотна прадаюць Зубрыцкім неабходны матэрыял, адносяцца непрыхільна да іхніх намаганняў павялічыць вытворчасць. Відаць, нядобразычлівасць, а то і звычайная зласлівая зайздрасць, заліваюць гэтым чыноўнікам вочы. Яны не бачаць, што праца Зубрыцкіх прыносіць ім дадатковыя цяжка запрацаваныя залатоўкі, якія яны ўкладваюць у гаспадарку, а краіне памнажаюць такую патрэбную ёй замежную валюту.

Здаецца, што Гушчэвіна ў апошнія дзесяцігоддзі адвярнулася ад пушчы. „Калісьці, як мы пасвілі жывіну ў пушчы, то трымалі па 2-3 каровы ды сядзелі без малака, — кажуць гушчавінцы. — А цяпер пасвім на сваіх гаспадарках па 3-4 штукі і малака стае і нам і ў малачарню штодня адстаўляем цэлую фуру поўных конавак". Затое пушча пайшла ў атаку на Гушчэвіну. Лясныя звяры — дзікі, сарны, алені, зубры — неаднай плоймаю вывальваюцца штоноч на гушчэвінскія палеткі і агароды ды ядуць, топчуць, рыюць, словам — нявечаць сялянскую працу. Людзі ратуюцца, як могуць: паляць па цэлых начах вогнішчы, ходзяць вакол сваіх палеткаў ды грукаюць у вёдры, бляхі; навязваюць сабак. Але гэта ўжо не памагае: зверы звыкліся і з людзьмі і з сабакамі — гоняць іх з аднаго загона, а яны бягуць на другі. Сабакі асвоіліся з дзікамі і не хочуць брахаць на іх, а дзікі такія абыякавыя да сабак, што рыюць пад самымі будамі. Ці надлясніцтва ў Грушках, якому штодзень з вокан відаць ды праз дзверы чуваць гэтае змаганне людзей з пушчай, дасць урэшце матэрыял на агароджу пушчы? Іншым жа вёскам дало! А мо яно чакае, калі дзікі яго падрыюць так, што і само рухне?..

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# КАБ БЫЎ МАЛОДШЫМ

(Працяг са стар. 3)

рукі ў яе дрыжалі, калі свой „каньяк“ разлівала, значыць, баялася, каб, яе родны бацька не сканфузіўся, беручы голымі рукамі ў рот шынку з талеркі.

Выручыў мяне з гэтага незавіднага становішча мой сусед за сталом, вучоны спецыяліст па будаўніцтве, як і мая дачка, толькі хіба мудрэйшы ад яе, бо ўжо дацэнт доктар габілітаваны, Здзіслаў Вяхецкі па прозвішчу. Ён найдаўжэй са мною гутарыў. Найперш пачаў мяне пытаць, якія я маю будынкі, з чаго, калі іх будаваў. Спачатку я крыху насцярожыўся, але пякучы „каньячок“ хутка развязаў мне язык і пад канец вечара даходзілі мы ўжо да парога сардэчнага пабрацімства, якое ў іх называецца брудэршафтам.

— Найцяжэй быць прарокам ва ўласнай хаце! — заявіў мой новы сябар — дацэнт і доктар. — Вось вы, дзядзьку, наракаеце на недахоп будаўнічых матэрыялаў! А гэта ж няпраўда! Матэрыял на пабудову дамоў, хлявоў і ўсяго іншага ляжыць проста на вуліцы.

Я падумаў, што наш „каньяк“ залішне пайшоў яму ў галаву. Ён гэта, мусіць, зразумеў.

— Не верыце мне, праўда? Заўтра зайдзіце да мяне ў Інстытут, пакажу вам штосьці, што прыдалося б зараз многім жыхарам вёсак, якія задумалі нейкую пабудову. Гэта адсюль зусім блізка. Вуліца Падэдворнага 14.

У ніякім інстытуце дагэтуль я ніколі не быў, дык пахадзіўшы па крамах (пару банак фарбы да жалеза хацеў купіць, каб свае машыны ад іржы забяспечыць), накіраваўся я на вуліцу Падэдворнага 14. У адным пакойчыку, куды завёў мяне дацэнт Вяхецкі, знаходзілася выстаўка розных будаўнічых матэрыялаў: цэглы, пустакі, розныя кшталткі ды іншыя элементы. Усе нібы падобныя да даўно вядомых кожнаму з нас будаўнічых матэрыялаў, але крыху іншыя.

— Усё гэта зроблена ў нашым інстытуце! — пахваліўся дацэнт. — Усюды там, дзе топлівам з'яўляецца вугаль, — гаварыў далей дацэнт, — пасля яго згарання астаецца жужаль і лятучы попел. Кожны год у краіне з гэтага попелу ўтвараюцца цэлыя горы — 16 мільёнаў тон. Ужо накапілася яго звыш 1 мільярда тон. А вось што можна зрабіць з гэтага попелу, — і ён узяў у рукі адзін шэра-буры элемент, які, па-мойму, надаецца на запаўненне стропу.

— Трэба дабавіць да гэтага попелу крыху звычайных вюркаў, значыць, стружак, якіх таксама паўным-паўно на розных дрэваапрацоўчых фабрыках, у лесапільнях і рамесніцкіх майстэрнях, заліць усё гэта цэментам і змяшаць у звычайнай бетанярцы, ды запоўніць гэтай сумессю адпаведную форму. Гэтакі будаўнічы матэрыял шмат лягчэйшы ад традыцыйных пустакоў, цэглы ці сіпарэксу. А сыравіну можна атрымаць у электрацяплоўнях ці ў іншых гарадскіх кацельнях зусім бясплатна, стружыны таксама. Хопіць расстарацца толькі цэменту, якога трэба намнога менш, чым пры звычайнай прадукцыі будаўнічых матэрыялаў.

Я браў у рукі гэтыя будаўнічыя навінкі, прабаваў іх на вагу і ўстойлівасць.

— Не бойцеся, не разломіцца! — завяраў мяне дацэнт. — Праверана на машынах. Вытрымоўвае па 22-25 кілаграмаў цяжару на кожны квадратны сантыметр.

— На жаль, — уздыхнуў я, — для мяне асабіста ваша ідэя ўжо непрыдатная. Я сваё ўжо адбудаваў.




— А не знайшоўся б у вашай вёсцы, — перапыніў мяне дацэнт, — нейкі адважны чалавек, які захацеў бы заняцца вытворчасцю гэтакіх будаўнічых элементаў? — ён паказаў свае экспанаты. — Мы гатовы яму дапамагчы. Гэта ж высокарэнтабельная справа! Грошы можна грабсці граблямі!

Вось, браткі, гэтая мая вялікая ідэя. Эх, каб я быў малодшы!

**Максім Нурэцкі**

---

мірыліся з „новым парадкам“. Доўгі час камандаваў ён партызанскім атрадам, які складаўся ў асноўным з мясцовых, тутэйшых сялян. Здаралася, што атрад „Грышкі“-Парфенюка расколваўся на паасобныя групы і адной з іх нейкі час камандаваў „Бацька“ — Негарыш. Магчыма, адгэтуль пайшла і назва „атрад „Бацькі“, якую замацаваў асабліва Аляксандр Амільяновіч. Назвай „атрад Бацькі“ карыстаецца таксама і даўнейшы сувязны гэтага атрада — Дзміцер Карповіч, аб якім неўзабаве я павяду яшчэ болей дакладны расказ.

— Ці вы ведаеце, пры якіх абставінах загінуў Хведар Парфенюк? — пацікавіўся я, а Раман Мардань мне адказаў:

— Асабіста яго гібелі я не бачыў. Пасля аб'яднання з атрадам імя Суворава нас раздзялілі. Мяне накіравалі ў разведку, а Грышка камандаваў узводам. Расказвалі мне сябры-партызаны, што яго ўзвод атрымаў загад, каб перарэзаць дарогу гітлераўцам, якія ўварваліся на грэблю. Партызаны прагналі ворага, занялі абарону. А ранкам пачалася бамбёжка. Штурмавікі раўлі над лесам. Скінуўшы бомбы, сяклі з кулямётаў. Партызаны проста інстынктыўна шукалі нейкага сховішча. Частка Парфенюковага ўзвода кінулася ў акопы за грэбляй. Ён сам зглядзіў нейкую зямлянку. Скочыў туды. За ім — яшчэ тры яго таварышы-партызаны. Дабеглі да зямлянкі, прытуліліся да сцен, адчулі сябе бяспечнымі. А тут — што за няшчасце! — адна з гітлераўскіх бомбаў — проста ў гэтую зямлянку! І зямлянка асталася для іх супольнай брацкай магілай. Магчыма, — уздыхае Раман Мардань, — да сёння яны там спачываюць.

Пасля працяжнай бамбёжкі гітлераўцы прадоўжылі абстрэл партызанскай зоны з палявой артылерыі. І тады — пад аховай браневікоў — пайшлі ў атаку на партызанскую брыгаду „Савецкая Беларусь“ дзве тысячы нямецкіх салдат. Ішлі яны смела, нават беглі, хаваючыся за браню самаходак і танкаў. Думалі, што дарогу ачысцілі ім самалёты і гарматы. І зноў памыліліся. Партызаны, сапраўды, доўга маўчалі. Упэўненасць, што „бандытаў“ перамалолі ўжо бомбы і снарады, у немцаў умацоўвалася. Дарогу браневікам і танкам загарадзіў лес і балота. Пяхота высунулася наперад. І тады адазваліся партызаны...

Сяргей Сікорскі, камандзір Брэсцкага партызанскага злучэння, успамінаючы гэтую заўзятую і працяглую партызанскую бітву, між іншым, піша так:

„...*17 дзён і начэй, не ведаючы сну і адпачынку, партызаны вялі жорсткія баі з пераўзыходзячымі сіламі праціўніка... Былі хвіліны, калі здавалася, што праціўніку ўдасца разграміць партызан, у якіх канчаліся боепрыпасы. Але ў гэты час Цэнтральны Камітэт партыі прыслаў нам боепрыпасы. Савецкія лётчыкі, нягледзячы на тое, што ўсе пасадачныя пляцоўкі былі пад абстрэлам, скінулі ў раён размяшчэння штаба пажаданы груз, які зараз жа быў дастаўлены на агнявыя пазіцыі партызан...*“

Каб не гэтая дапамога з „Вялікай зямлі“, партызаны наўрад ці вытрымалі б такі магутны агнявы націск ворага. 790 партызан брыгады „Савецкая

(Працяг на стар. 8)

---




## ТУМАН

Вось і зіма прыйшла. Аднак прырода ніяк з восенню не можа развітацца. Гэта добра. У дарозе прыемна, жывёле цёпла. Селяніну дарога заўсёды патрэбна: на рынак, па дровы, па ўгнаенні. Патанелі яны, у магазінах рух. Кожны хоча купіць, каб вясною было што валачыць па полі. Ну і крыху грошыкаў сэканоміць. У каго іх замнога.

Заводжу свайго „Урсусіка“ — і ў дарогу. Ён у мяне новенькі, амаль з-пад іголачкі. Толькі, відаць, іголачкі былі тупыя, швы пускаюць, працякае. Слава Богу, не ў мяне аднаго. Аднак рухаецца. Кабіну асобна купіў. Толькі з жоўтым дашком. Не на дабро гэта.

Еду, прыродай любуюся.

Тах-тах-тах-тах! — роўна працуе матор. Толькі слупкі мільгаюць. Ну, не так ужо вельмі, але мільгаюць. На дрэвах белы іней, і зямля беленькая. Ноччу прымарозіла. З раніцы быў туман, цяпер праясняецца, каля палудня зусім ясна будзе.

Раптам з-за ўзгорка вядомы Фіят. Радароўцы! А я без святла. Пашкадаваў акумулятара — дэфіцытны тавар.

Піск тармазоў. З Фіята выходзіць прыгажун, спыняе мяне, казырае і кажа:

— Чаму без святла? Туман жа.

„Можа і туман, — думаю, — можа я сляпы і не прыкмеціў“.

— Ого, люстэрка няма, і выцірачкі...

О, цяпер туман. Аднак кажу:

— Які туман? О, Гайнаўку відаць. Першы раз гэта, даруйце.

Але, бачу, словы мае да яго не даходзяць. Стаю тады ціха і чакаю прыгавору. А ён піша і піша. Урэшце кажа:

— Пяцьсот злотых.

Заплаціў я без слова.

Вось і дарожным злачынцам стаў. А ўсё з-за недахопу часу. Так стараўся, так стараўся, мантаваў кабіну, не хапіла часу на люстэрка і выцірачку. А яны — хлопцы тутэйшыя, шкадуюць нас. Едзеш, аглядаешся, толькі карак баліць. Ці ж не лепш глядзець у люстэрка? А калі ты цёмны мужык, дык грашыма табе ў лоб розум устаўляць трэба. Словы не даходзяць, тут лепшы спосаб дапатопны.

І рушыў я пачатае закончыць. І думка вясёлая ў галаву прыйшла: „Я і так у выйгрышу ад зніжэння цаны на ўгнаенні. Яшчэ і на піва застанецца“.

Але цяпер, калі і ў сонечны дзень убачу радароўцаў, туман наступае на мае вочы, а рука мімаволі ўключае святло.

Падумайце, што можа стацца з чалавекам!

**Г. Мароз**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Благая пуга лычаная, а без яе яшчэ горай.

Гаспадарка маўчыць, але шыю таньчыць.

Дзе гаспадароў многа, там толку мала.

Захочаш сабаку ўдарыць — кій знойдзеш.

Калі на стале гусь і парася, то работа хараша.

Лежачы, яды не дабудзеш.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Пятро Рунец

# У МАРОЗНУЮ РАНІЦУ

На дварэ трашчаў мароз. Дрэвы звінелі і мелі казачна белы выгляд.

Уладзік сядзеў ля акна і пазіраў на кармушку, якая вісела на маладой таполі насупраць іх кватэры. Тыя дні ў такую пару прылятalі паснедаць і вераб'і, і сініцы, і снегіры. А сёння нікога не было. Холадна і няўтульна гэтай драбноце ўзімку, асабліва калі лютуе мароз. Пазашываліся дзе-небудзь і баяцца вылазіць. Толькі Уладзік так падумаў, як на кармушку селі тры сініцы. Пэўна, тыя самыя, што прылятаí кожны дзень. Не збаяліся, значыць, холаду. Хлопчык узрадаваўся, убачыўшы старых знаёмых. Дзве большыя адразу ўзяліся снедаць — дзяўбсці ячныя крупы. А трэцяя, меншая і, відаць, слабейшая за сваіх сяброваk, натапырылася, нагнула галоўку, нехаця дзеўбанула раз, другі і раптам — звалілася на снег.

„Што з ёю? — Уладзік здзіўлена пазіраў на нерухомую птушку, чакаючы, што яна вось-вось узляціць. Але сініца нават не варушылася.

— Напэўна, замерзла! — працяла хлопчыка думка.

Ён падхапіўся, на хаду апрануў паліто і выскачыў з хаты. Зрабіў некалькі скачкоў і — апынуўся ля таполі. Схапіў сініцу, паднёс да вачэй. Птушка адкінула галоўку і не краталася. Уладзік пачаў хукаць, каб сагрэць птушачку сваім дыханнем. Але гэта не памагло. „Няўжо загінула?“

Трымаючы птушку ў руках, хлопчык нечакана адчуў, быццам сэрца яе яшчэ памаленьку б'ецца. Ён сунуў сінічку ў рукаў і памчаўся ў хату.

— Мама, сінічка! — крыкнуў Уладзік.

— Дзе ты яе ўзяў?

— Ля кармушкі... Мусіць замерзла...

— А ты пагрэй яе каля печы. — параіла маці, агледзеўшы птушку. — Яна адыдзе. Птушкі жывучыя...

Уладзік паднёс сініцу да печы, сеў на зэдлік і пачаўназіраць. Мінула хвіліна, другая, птушка ляжала нерухома.

Няўжо яна не ажыве? І ў той момант, калі хлопчык ужо страціў надзею, сінічка нечакана дрыгнула адной ножкай, потым другой і адплюшчыла чорныя вочкі-пацеркі.

— Мама, сінічка ажыла! — закрычаў узрадаваны Уладзік.

— Я ж казала — пагрэй, — задаволена прамовіла маці. — Гэткая малеча. Вялікаму і то холадна. Зараз мы яе накормім. Маці схадзіла на кухню, прынесла жменьку проса і пасыпала на падаконнік.

Уладзік пасадзіў сініцу на акно. Яна страпянула крыльцамі, паглядзела на хлопчыка і, нібы пазнаўшы свайго знаёмага, крутнула галоўкай і пачала дзяўбсці. Відаць, яна дужа прагаладалася.

Прыйшоў Коля, Уладзікаў сябар. Убачыў жывую сініцу і заскакаў ад радасці.

— Давай пасадзім у клетку. У нас будзе свая птушка. Будзем рабіць назіранні. Цікава, праўда?

Тут у размову ўмяшалася маці:

— Канечне, добра мець сваю птушку. Але ці добра ёй будзе ў нас?

— Вядома, добра! — усклікнуў Коля. — Мы будзем яе даглядаць, карміць. І, галоўнае, ёй будзе цёпла. Ніякі мароз не замарозіць...

— Я не сумняваюся, што вы дагледзіце яе. Але птушцы гэтага мала. Ёй патрэбна воля. А волі якраз і не будзе. Ды і па сяброўках яна будзе сумаваць.

Хлопчыкі мімаволі глянулі ў акно. Сініцы паснедалі, сядзелі на галінках і паглядвалі па баках, быццам кагосьці чакалі. Хлопчыкі зірнулі адзін на аднаго.

— Ну што, выпусцім? — спытаў Коля Уладзіка.

Той кіўнуў.

Уладзік адчыніў фортачку і выпусціў сініцу. Яна імкліва ўзмахнула крыльцамі і ў момант апынулася на таполі. Села на галінку і радасна запінькала. Убачыўшы сяброўку, заварушыліся, заскакалі на месцы і астатнія сініцы. Потым спырхнулі і паляцелі.



Пятрусь Санік з Ячна, што ў Дубро́ўскай гміне, са сваім сябрам. Фота Юркі Трачука.

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

# ЗАЛАТЫ ПТАХ

Былі ў аднаго чалавека тры сыны: два разумныя, а трэці — дурны.

Старэйшы сын, Сцяпан, умеў на скрыпцы іграць, сярэдні, Піліп, — на дудцы, а меншы, Іван, ні да чаго спрыту не меў: сядзеў у запечку ды лучынкі стругаў.

Вырасла ў таго чалавека ў садзе яблынька, а на ёй — залатыя яблыкі. Цешыцца бацька з яблыкаў, і сыны цешацца. Кожную раніцу ў сад ходзяць глядзець, ці цэлыя яны.

Праверылі гэтак аднаго разу — не хапае яблыка! І на другую раніцу не далічыліся аднаго яблыка...

Засумаваў бацька: „Відаць, — думае, — нейкі злодзей панадзіўся ў сад цягацца.“

Кажа ён старэйшаму сыну, Сцяпану:

— Ідзі ты, сынку, пільнаваць яблыкі.

Прыставіў увечары Сцяпан да яблыні драбіну, залез на яе, сядзіць ды на скрыпцы іграе. Усю ноч іграў, а пад дзень дужа спаць захацелася, — ён і задрамаў. Раптам чуе праз сон: нешта над галавою моцна зашумела, залопала. Прахапіўся Сцяпан, працёр вочы, — нідзе нікога няма, толькі аднаго яблыка не хапае...

Вярнуўся ён да бацькі маркотны.

— Не ўпільнаваў, — кажа, — злодзея: зноў адзін яблык сарваў...

На другую ноч сярэдні сын, Піліп, кажа:

— Пайду я пільнаваць. Быць таго не можа: каб не ўпільнаваў!

Пайшоў ён, прымасціўся на драбіне ды выцінае сабе на дудцы розныя полечкі. Усю ноч іграў, а пад дзень дужа спаць захацелася, — ён і задрамаў. Раптам праз сон чуе: нешта над галавою зашумела, залопала. Пакуль прачнуўся — зноў аднаго яблыка няма!

На трэці дзень меншы сын, Іван, кажа:

— Дрэнныя з вас, браты, вартаўнікі. Вось я пайду, то на чым ні стане, а прыпільную злодзея.

Набраў Іван цэлы жмут лучынак і пайшоў на варту. Сядзіць на драбіне, стружа лучынкі ды песенькі пад нос сабе мармыча.

Пачало на дзень займацца. Чуе Іван — нешта здалёку зашумела. Стаіўся ён, углядаецца. Аж бачыць — ляціць да яблыні вялікі залаты птах. Падляцеў бліска і хацеў яблык схапіць, а Іван злаўчыўся ды цап яго за доўгі хвост.

Вырваўся птах і паляцеў без яблыка. Глядзіць Іван, аж у яго руцэ тры залатыя пяры засталіся.

Прыбег ён у хату, пабудзіў усіх:

— Глядзіце, — кажа, — я зло-

(Працяг на стар. 10)

# ЦЕШЧА І АЎТАМАБІЛЬ

На продаж паступіў у магазін
Найноўшай маркі лімузін.
Зззяў свежай фарбай, лашчыў людзям
вочы.
Набыць яго ахвочых
Было мо сто — не меней.
Вунь грошы ўжо выцягваюць з кішэняў
І рушаць на дырэктара у наступ:
Маўляў, я першы тут і — баста!
Быць першымі жадаюць усе сто.
Ніхто ўступіць не хоча ні за што.
Адзін крычыць,
Другі аж вые нема.
Як вырашыць складаную праблему!
Машыну ж не падзеліш, нібы гумку.
І нарадзілася шчаслівая тут думка,
Дырэктар наш ад радасці усміхнуўся
І да прысутных з прапановаю
звярнуўся:
— Хай той набудзе гэты лімузін
І сэрца сваё ўцешыць,
Хто першы з нас, мужчын,
Пакажа фотакартку любай цешчы.
Прыціхлі ўсе і слова больш не ўпала,
Нібы ім языкі карова аджавала.
Пакінулі мужчыны магазін,
І не прададзены застаўся лімузін.

**Уладзімір Правасуд**

З чаго смяюцца суседзі.




Без слоў.

# НІЎКА



### У ЛЕКАРА

Да лекара зайшла старэнькая бабуля.

— На што скардзіцеся?

— Ой, сынок, баліць мне ў грудзях!

— Сястра, пастаўце бабусі тэрмометр, і хай яна пачакае ў калідоры.

Праз гадзіну бабуля вярнулася. Аддае тэрмометр.

— Вазьмі, сынок, гэту штуку, яна мне так памагла, так памагла. Ужо нічога не баліць.

### КАМУ ШТО

Пляткар, атрымаўшы новую кватэру, дзе сцены дапамагаюць чуць, што робіцца ў суседзяў, радаваўся:

— Малайцы, будаўнікі.

Байка

### НЮАНС

— Дажыўся, — з раздражненнем гаварыла Хамелеону жонка. — Усіх хціўцаў і прайдзісветаў тваім імем называюць!

— Ага, значыць я ва ўсім вінаваты, а не яны? Дурніца! Я ж мяняю афарбоўку дзеля жыцця, а не дзеля кар'еры!

**Язэп Таўшчэзны**





Ішоў у нагу з часам, але час быў мінулы.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шатландзец пытае сваю нарачоную:

— Дарагая, што ты хацела б атрымаць да дня нараджэння?

— Я пакуль не ведаю.

— Добра. Даю табе яшчэ адзін год на роздумы.

*

Перад палацам шэйха спыняецца аўтобус, поўны пажылых жанчын.

— Зноў турысты? — пытае шэйх.

— Не, — адказвае сакратар, — вашы цешчы прыехалі ў госці.

*

У бальніцу даставілі чалавека з разбітай галавой. Медсястра запаўняе гісторыю хваробы:

— Прозвішча, імя?

— Гары Сназерс.

— Жанаты?

— Не. Аўтамабільная катастрофа.



### СУСТРЭЧА

Спускаецца адзін на парашуце, а яму насустрач ляціць задрыпанец.

Парашутыст пытае:

— Скажы, калі ласка, дзе тут аэрадром?

— Не ведаю, не ведаю, я з парахавога складу.

### НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЯ

Наведвальнік да афіцыянта:

— Вы што мне падалі, катлеты ці пяльмені?

— Няўжо не можаце адрозніць?

— Не магу.

— Тады якое гэта мае значэнне?



Без слоў.

З „Весніка Задрыповіі"

### НОВАЕ АБ СНЕ

Усім вядомы спосаб засынання з дапамогай авечак і вярблюдаў. Нядаўна спецыялісты па фізіялогіі нармальнага сну г. Улюлюкінска ўстанавілі, што, скарыстоўваючы гэты спосаб, за 8 гадзін чалавек можа налічыць да 15 тысяч авечак і да 8 тысяч вярблюдаў.

### ЗАЯВА

У сувязі з тым, што ў мяне вывеілі склад розуму, прашу выставіць ахову.

**П. Лапавух**



Зоркі ў зімовую ноч.

# Курёзы

### „БЕМ-БОРГКАЛЕКЦЫЯ"

Вядомы шведскі тэнісіст Бем Борг яшчэ не стары чалавек, яму толькі што споўнілася 27 гадоў. Але ў спорце гэта ўзрост ужо не перспектыўны. Добра разумеючы гэта, Бем Борг раней, чым пакінуць вялікі спорт, вырашыў як мага больш папоўніць сваю скарбонку. Ён пачаў прымаць удзел у рэкламе адзення. А каб не шакіраваць публіку сваім дзівацкім, зусім не спартыўным хобі, Бем Борг разам з гаспадарамі кампаніі пусціў чутку, што ён рэкламуе адзенне, якое быццам бы і мадэліраваў уласна сам. І тыя віды вопраткі, якія ён рэкламуе, адзяваючы на сябе на манекенпай пляцоўцы, так і называюцца афіцыйна: „Бем-Боргкалекцыя". На справе ён не мае ніякіх адносін да мадэліравання гэтых прасторных фасонаў, што сталі экстрамоднымі, што праектуюць прафесіянальныя мадэльеры. Сам Борг па старой звычцы носіць джынсы ў абцяжку і прыкра адзываецца аб тым, што рэкламуе. Але бізнес ёсць бізнес. Тым больш, што даецца ён спартсмену не цяжка: пашпацыраваць у новым касцюме перад гледачамі на працягу 20 мінут і атрымаць 50 тысяч шведскіх карон. Апрача таго па кантракту з гандлярамі ён атрымлівае немалыя працэнты ад гандлёвых даходаў фірмы.



Не спяшайцеся з вывадамі. Падумайце пра вынікі.